# ПАГОНЯ

Чацвер
10 чэрвеня 1999 г.
№ 38 (415)
Кошт 25.000 руб.


## «Азот» нясе страты

**Гарадзенскае ВА «Азот» нясе сур'ёзныя страты з-за паставак азотных угнаенняў на ўнутраны рынак.**

Каля 70 працэнтаў выпускаемых мінеральных угнаенняў аб'яднанне рэалізуе сёння аграрнаму комплексу Беларусі, і з-за абмежаванняў росту цэн, уведзеных дзяржавай, пастаўкі на ўнутраны рынак сёння з'яўляюцца стратнымі.

Калі ў папярэднія гады выдаткі ад продажу на ўнутраным рынку пакрываліся даходамі ад экспартных аперацый, то сёлета — у выніку зніжэння на сусветным рынку цэн на хімічную прадукцыю — «Азот» не можа кампенсаваць дадзеныя страты экспартнымі пастаўкамі.

**Аляксандр Паповіч**

## Тэлебачаннем кіруе Волчак

**Роўна шэсць месяцаў кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі і Гарадзенскага аблвыканкама шукала кандыдата на пасаду старшыні абласнога тэлерадыёаб'яднання. І вось днямі творчаму калектыву быў прадстаўлены новы кіраўнік. 42-гадовы Дзмітрый Волчак да гэтага прызначэння непрацяглы час працаваў намеснікам начальніка абласнога ўпраўлення культуры, а раней узначальваў вучылішча культуры.**

Паводле словаў Дз.Волчака, на новай пасадзе ён, перш за ўсё, зверне ўвагу на ўдасканаленне вяшчальнай палітыкі і тэхнічнае забеспячэнне вытворчага працэсу.

**Сцяпан Ярашчук**

## Пантанёры не падвялі

**Ваенныя аташэ шэрагу дзяржаваў, акрэдытаваныя пры Міністэрстве абароны Беларусі, наведалі 1 чэрвеня Гарадзенскую вобласць.**

Прадстаўнікі ваеннага дыпламатычнага корпуса, што прыехалі, у тым ліку з Масквы і з Кіева, назіралі за дзеяннямі падраздзяленняў 11-га пантонна-маставога палка, якія наводзілі пераправу праз раку Нёман. Дадзенае мерапрыемства праводзілася згодна з планам працы Міністэрства абароны Беларусі з ваеннымі аташэ замежных дзяржаваў.

**Алег Сакалоў**

## Памерці не паміраем, аднак жаніцца ўжо не хочацца

**Асноўнымі крыніцамі даходаў для 73,1 працэнта жыхароў Гарадзеншчыны застаецца заробак, для 18,3 працэнта — пенсіі.**

Прыбыткі з уласных падсобных гаспадарак у сукупным даходзе сям'і складаюць 18,9 працэнта, ці 1,5 мільёна рублёў у сярэднім на сям'ю. Згодна са звесткамі афіцыйнай статыстыкі за чатыры апошнія гады штомесячныя расходы на харчаванне на сям'ю зменшыліся на 6,7 працэнта. Гэта адбываецца на фоне агульнага падзення сямейнага бюджэту.

Увогуле, выдаткі на харчаванне ў структуры спажывецкіх расходаў складаюць 54,6 працэнта. Назіраецца памяншэнне попыту на хлеб, каўбасныя і кандытарскія вырабы, цукар. У рацыёне жыхароў вобласці скарацілася ўтрыманне бялка: пры сутачнай норме 97,6 грама ён складае ў сярэднім 78,7 грама на чалавека.

Узровень жыцця паўплываў і на дэмаграфічныя паказчыкі. Так, каэфіцыент нараджальнасці ў рэгіёне скараціўся ў разліку на тысячу чалавек з 14,6 — у 1990 годзе да 9,4 — летась; разам з тым колькасць памерлых павялічылася за адпаведны перыяд на 22,6 працэнта.

**Антон Лабовіч**




**11 і 12 чэрвеня** - пераменная воблачнасць, кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні, 5-10 м/с, пры навальніцах да 15-20 м/с. Тэмпература паветра ўначы +14...+19, удзень +24...+29.

# І чаго толькі ў нас няма. Вось і бензін знік...

**На мінулым тыдні ў Гродне знік бензін АІ-92. Якраз у гэты час, другога чэрвеня, генеральны дырэктар прадпрыемства «Гроднааблнафтапрадукт» Аляксандр Калодка са шматлікай світай інспектаваў аўтазаправачныя станцыі. На «запраўцы», што па вуліцы Каліноўскага, у гарадзенскага нафтавага магната раптам запытаўся «чалавек з вуліцы»:**

- Куды падзеўся 92-гі бензін?

- Няма ў краіне нафты, - цьмяна адказаў магнат.

- У краіне шмат чаго няма, - пагадзіўся «чалавек з вуліцы». - Дык што цяпер, класціся ды і паміраць? - нечаканая задаў ён філасофскае пытанне нафтаваму каралю.

- Няма нафты, а купіць - няма валюты, - працягваў цямніць той.

- А куды падзелася валюта? - «чалавек з вуліцы» патрапіўся ўпарты. Але і магнат не збіраўся здавацца: «Гэтаксама і я ў Вас магу запытацца: куды падзелася валюта?» - перавёў ён стрэлку на цікаўнага.

- А я краінай не кірую, - ганарова сцвердзіў «чалавек з вуліцы».

- І я ёю не кірую, - яшчэ раз




Зноў няма бензіну...

перавёў стрэлку магнат.

Апошняя фраза выклікала ў прысутных задуменне: сапраўды, кіруе Калодка краінай, альбо не кіруе ён краінай. А мо, наадварот, краіна кіруе Калодкам. Ва ўзнікшай паўзе нейкі прыхлябай са світы вырашыў дапамагчы шэфу: «А Вы дапамажыце кіраўнікам кіраваць», - зачэпіста параіў ён «чалавеку з вуліцы».

- Чорт лысы Вам дапаможа, - зласліва адгукнуўся чалавек.

Размова нафтавага караля з народам падняла пытанні, на якія дагэтуль няма адказу. Калі нафты і валюты няма, то адкуль усё ж бензін у Гродне, напрыклад, АІ-76 і АІ-95? А калі ёсць нафта ці валюта, то чаму няма менавіта 92-га? Зноў жа, хто ў нас кім кіруе, блін?

Нарэшце, трэба дапамагчы Калодку кіраваць, ці ён сам справіцца?

**Сяргей Самасей**

## Паліва з`явіцца ў сярэдзіне чэрвеня?

**Згодна з аператыўнай інфармацыяй, з пачатку 1999 года і па стану на 1 чэрвеня, аб'ём пачатковай перапрацоўкі нафты ў Беларусі склаў 5.646 тыс. тон, альбо 126 працэнтаў да аналагічнага леташняга перыяду. Прычым, аб'ём нафтперапрацоўкі на ВА «Нафтан» павялічыўся на 14 працэнтаў, на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе (НПЗ) —на 42 працэнты.**

Адначасова, пачынаючы з другой паловы траўня, на дзяржаўных аўтазаправачных станцыях (АЗС) назіраецца дэфіцыт нафтапрадуктаў. На думку экспертаў, асноўнай прычынай недахопу аўтабензіну на АЗС з'яўляецца скарачэнне закупкі нафты канцэрнам «Белнафтахім». Што ж тычыцца НПЗ, то яны перапрацоўваюць у большасці сваім давальніцкую сыравіну, нафтапрадукты з якой расійскія нафтавыя кампаніі прадаюць у Прыбалтыку, Польшчу і Украіну.

Праблема дэфіцыту аўтабензінаў на дзяржаўных АЗС, лічаць спецыялісты, павінна вырашыцца ў сярэдзіне чэрвеня: да гэтага часу канцэрн «Белнафтахім» плануе набыць дастатковую колькасць нафты ў Расіі, што дазволіць значна павялічыць вытворчасць нафтапрадуктаў для патрэб народнай гаспадаркі краіны.

**Яўген Грубіч**

## З`ехалі на «мэрсе» - не дагоніш

**У Гродне ўчынены дзёрзкі разбойны напад: уначы чацвёра невядомых злупцавалі жыхара Гродна, які паркаваў свой «Мэрсэдэс» на платнай аўтастаянцы па завулку Перамогі.**

Таксама яны напалі на вартаўніка аўтастаянкі. Абодва атрымалі сур'ёзныя траўмы галавы. Пагражаючы газавым пісталетам і тройчы выстраліўшы з яго ўверх, рабаўнікі пашкодзілі тэлефонную сувязь, паклалі абодвух пацярпелых на зямлю, пасля чаго ўцяклі на скрадзенай машыне.

Нягледзячы на праведзеныя міліцыяй спецыяльныя мерапрыемствы, злачынцаў не затрымалі.

**Ася Куніцкая**

## Купалаўцы будуць разам

**На Беларусі ствараецца новая грамадская арганізацыя — Асацыяцыя выпускнікоў Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы.**

Задуму рэктара ГрДзУ Сяргея Маскевіча падтрымалі 33 колішнія студэнты, якія сабраліся на ўстаноўчы сход з усіх рэгіёнаў краіны, зацвердзілі статут асацыяцыі, а таксама абралі прэзідыум на чале з першым прарэктарам Іванам Мартынавым і яго намеснікам — дырэктарам мясцовага вышэйшага прафесійнага вучылішча лёгкай прамысловасці Вячаславам Хмяльніцкім.

Стварыць асацыяцыю выпускнікоў ёсць з каго. На працягу 60-ці гадоў першую вышэйшую навучальную ўстанову Заходняй Беларусі скончылі больш за 35 тысяч чалавек, сярод якіх вядомыя зараз у краіне асобы — акадэмік Міхаіл Касцюк, лаўрэаты Дзяржаўных прэмій у галіне літаратуры Данута Бічэль-Загнетава, Пятрусь Макаль і Аляксей Карпюк, вядомы педагог Алесь Белакоз, алімпійская чэмпіёнка Алена Валчэцкая, Вольга Корбут і Аляксандр Курловіч, мастак Аляксандр Ларыёнаў, вучоны Андрэй Майсяёнак і шмат іншых.

Сёння ў Гродзенскім універсітэце вучыцца 8 000 студэнтаў. Летась тут было абаронена тры доктарскіх і 15 кандыдацкіх дысертацый.

**Антон Лабовіч**

# Не адкладвайце падпіску на заўтра!

Працягваецца падпіска на ПАГОНЮ на другое паўгоддзе 1999 года. Асаблівасцю гэтай падпісной кампаніі з`яўляецца тое, што яна заканчваецца ўжо 18 чэрвеня! А таму не варта адкладваць на заўтра тое, што можна зрабіць ужо сёння.

Гэта не займе ў Вас шмат часу: Вам неабходна запоўніць падпісны квіток і па дарозе на працу заскочыць на некалькі хвілін у бліжэйшае паштовае аддзяленне.

**Нагадваем, што кошт падпіскі на нашую газету - 200 тысяч рублёў на месяц. Падпіска на квартал - 600 тысяч рублёў. Падпісны індэкс - 63 124.**

Звяртаем Вашую ўвагу на тое, што гэтым разам ПАГОНЯ атрымала таксама падпісны індэкс для ведамаснай падпіскі - 63 348. Гэта значыць, што ПАГОНЮ можна выпісаць на прадпрыемствы, установы, калгасы і г.д. Кошт ведамаснай падпіскі ў тры разы даражэй: на месяц 600 тысяч, на квартал 1 мільён 800 тысяч рублёў.

## Чаму трэба выпісаць ПАГОНЮ?

♦ таму, што два разы на тыдзень Вы будзеце атрымліваць аператыўную і аб`ектыўную інфармацыю пра грамадска-палітычнае жыццё ў Прынямонні і на Беларусі.

♦ таму, што падпіска на ПАГОНЮ ўжо сёння Вам каштуе ў два разы танней, чым у кіёсках Саюздруку.

♦ таму, што падпісаўшыся на нашу газету, Вы не словам, а справай дапаможаце нам у гэты цяжкі час, унесяце важкі ўклад у пабудову новай Беларусі.

♦ таму, што гэта Ваша газета!!!

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі
Рэспублікі Беларусь

***АБАНЕМЕНТ*** на газету / ~~часопіс~~ ***63124***
індэкс выдання

***"ПАГОНЯ"***
(назва выдання)

Колькасць камплектаў: 1

На 1999 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)
Каму
(прозвішча, ініцыялы)

***ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА*** на газету / ~~часопіс~~ ***63124***
індэкс выдання

***"ПАГОНЯ"***
(назва выдання)

| Кошт | падпіскі | *600 тыс. руб.* | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ руб. __ кап. | | |

На 1999 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)
Каму
(прозвішча, ініцыялы)





ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

# Аб выбарчай кампаніі

## (даклад на Сойме 30.05.1999 года)

**Выбарчая прэзідэнцкая кампанія, што скончылася 16 траўня, стварыла новую палітычную сітуацыю ў краіне і ў БНФ. Спярша пра краіну. Яна засведчыла шырокае народнае незадавальненне рэжымам Лукашэнкі і чаканне перамен. Яна паказала здольнасць аб'яднанай апазіцыі дасягаць істотных вынікаў у змаганні з антынароднай уладай, калі гэтае змаганне вядзецца ў адпаведнасці з агульнанацыянальным інтарэсам. Яна ўмацавала палітычныя пазіцыі легітымнага органа ўлады як у вачах міжнароднай супольнасці, так і ў вачах беларускага грамадства. Нарэшце, яна засведчыла перспектыўнасць і эфектыўнасць негвалтоўных метадаў змагання. Усяму гэтаму ёсць маса сведчанняў.**

Разам з тым, прэзідэнцкая выбарчая кампанія была праведзена не так, як можна і трэба было яе правесці. Яна высветліла слабую скаардынаванасць апазіцыйных арганізацый. Раскол у кіраўніцтве БНФ і схільнасць часткі кіраўніцтва дзейнічаць насуперак патрабаванням Статуту і рашэнням Сойму - кіруючага органа БНФ. Гэтая самадзейнасць выклікала хаос у заключнай стадыі выбараў, раскол у шэрагах сяброў і прыхільнікаў БНФ і пагрозу існавання БНФ, як самай масавай і аўтарытэтнай дэмакратычнай арганізацыі.

Гэтыя адмоўныя вынікі (адмоўныя для БНФ!) настолькі сур'ёзныя, што прымушаюць мяне засяродзіцца выключна на пазіцыі і палітыцы БНФ у гэтай кампаніі. Тым болей, што ёсць пэўная доля віны Сойму ў тым, што да сённяшняга дня ён не выпрацаваў яснай пазіцыі адносна каардынацыі намаганняў аб'яднанай апазіцыі. Вы, мабыць, памятаеце сваё рашэнне аб паўудзеле ў Кангрэсе дэмакратычных сіл і хто апантана агітаваў за такое рашэнне. Вы таксама павінны памятаць, хто выступаў за прыпыненне нашага ўдзелу ў ККР, створанай Кангрэсам. І павінны ўзважыць, наколькі канструктыўная гэтая палітыка ў параўнанні з тым, што Фронт быў арганізатарам і першага і другога Кангрэсу. І даўно страціў манаполію ў арганізацыйным руху, а таксама магчымасць непасрэдных кантактаў з прадстаўнікамі дзяржаваў дэмакратычнага свету. Вы павінны зразумець, што палітыка самаізаляцыі, самазадавальнення ёсць злачынства супраць Беларусі, супраць яе нацыянальных інтарэсаў.

Аднак гэтага не могуць зразумець намеснік старшыні БНФ С.Папкоў і яго нешматлікае, але вельмі гаваркое атачэнне. Але гавораць яны адно і тое ж, выдаючы гэта за прынцыповую пазіцыю ды яшчэ за мараль. Хаця ў нармальным свеце такія паводзіны называюць зусім іншым словам.

Пасля таго, як 10 студзеня ВС прыняў рашэнне аб прызначэнні выбараў на 16 траўня, Сойм чатыры разы разглядаў пытанне аб выбарах і паступова выпрацаваў адзіна разумную стратэгію, якая зыходзіла з нашага непрызнання вынікаў дзяржаўнага перавароту ў лістападзе 1996 года, а заяўлены экс-прэм'ерам М.Чыгіром намер яшчэ ў снежні 1998 года ўзяць удзел у магчымых выбарах у якасці кандыдата ў прэзідэнты вымушаў нас не проста падтрымаць рашэнне ВС, а прыняць актыўныя захады для яго рэалізацыі. Адзначу, што не ўсе дэмакратычныя арганізацыі адразу і цалкам падтрымалі рашэнне ВС. Для далейшага істотна, што сярод тых, хто выступіў супраць былі Г.Карпенка і яго прыхільнікі з АГП, а таксама Хартыя-97.

Не буду аналізаваць асабістых прычын, якія, безумоўна, былі. Разгледзім довады, якія выказваліся публічна. На думку праціўнікаў выбараў, іх правядзенне выкліча рэпрэсіі і нанясе ўдар па партыйных структурах і незалежнай прэсе. Таму выбары не трэба абвяшчаць альбо абвясціць і канстатаваць немажлівасць іх ажыццяўлення ва ўмовах дыктатуры і чакаць 21 ліпеня. З цягам часу сталі, праўда, вядомы іншыя матывы. Напрыканцы чэрвеня ў Варшаве запланаваны саміт міністраў замежных справаў для абмеркавання сітуацыі ў Беларусі, і на яго былі запрошаны спадары Г.Карпенка і А.Саннікаў. А на ліпень планавалася важная сустрэча ў ЗША таксама з удзелам Г.Карпенкам.

Але Сойм прымаў рашэнне не з-за наяўнасці гэтага канкуруючага плана, сэнс якога, думаю, не трэба тлумачыць. А дзеля падтрымкі легітымнасці ВС і ягонага права прыняць уладу пасля 20 ліпеня. А таксама дзеля правядзення масавай кампаніі ды ўзняцця рэйтынгу, як БНФ, так і яго лідара, які (рэйтынг) апошнія гады няўхільна падаў. Усе разумелі, што могуць быць рэпрэсіі, хаця законаў, па якіх можна было б абвінаваціць удзельнікаў кампаніі, няма. Што выбары, магчыма, не ўдасца давесці да канца з-за гэтых рэпрэсій. І што іх юрыдычная вартасць у гэтым выпадку будзе нікчэмнай, бо будуць парушаны міжнароднапрызнаныя нормы для свабодных, справядлівых і роўных выбараў. Але застанецца сэнс плебісцыта супраць дыктатарскага рэжыму. Застанецца магчымасць перахапіць палітычную ініцыятыву і прымусіць А.Лукашэнку абараняцца і давесці да ўсяго насельніцтва, што пяць гадоў, на якія ён абіраўся, заканчваюцца.

З гэтымі довадамі пагадзіўся і Сойм, і КДС. Склалася ўнікальная сітуацыя адзінства апазіцыі, што прымусіла аўтараў альтэрнатыўнага плану спыніць публічную крытыку. Аднак не спыніла апазіцыю ў БНФ. С.Папкоў і А.Крываротъ, карыстаючыся тым, што З.Пазьняк яшчэ не прыняў рашэння наконт сваёй кандыдатуры, раскалолі Управу, якая павінна была вылучыць прадстаўніка БНФ у склад ЦВК. Учынак цалкам свядомы. Вынікам яго яны ў далейшым паслядоўна карысталіся. Як можна было б вінаваціць ЦВК у фальсіфікацыі, калі б там быў наш афіцыйны прадстаўнік?

Я агітаваў Зянона за ўдзел у кампаніі. Аднак папярэдзіў, што шанцаў перамагчы ў ёй, нават у малаверагодным выпадку адсутнасці рэпрэсій, у яго няма. Таму трэба правесці сустрэчы з М.Чыгіром і В.Ганчаром, каб рэалізаваць на ўсякі выпадак формулу С.Шарэцкага: «у гэтай кампаніі не павінна быць пераможных». Пазьняк, як паказалі яго далейшыя дзеянні, згадзіўся з усім, апроч немагчымасці перамагчы ў роўных і свабодных выбарах.

Толькі гэтым ды яшчэ неверагоднаю для палітыка легкаверн асцю можна патлумачыць з'яўленне вядомага «Праекта Чыгір» роўна праз два дні пасля сутрэчы з Г.Карпенкам. Генадзь Дзмітрыевіч быў дасведчаным палітыкам. Ён умеў рэалізоўваць свае планы. Пра свае падазрэнні ён расказваў мне ды іншым кіраўнікам БНФ. Аднак акрамя сувязі Чыгіра з Сініцыным не мог назваць, з якой жа канкрэтна групоўкай у Маскве М.Чыгір звязаны. Хто менавіта зацікаўлены ў замене А.Лукашэнкі альбо ў шантажы яго дэмакратычнымі выбарамі. Але З.Пазьняк, верагодна, вырашыў, што ў гэтым зацікаўлена ўся Масква, хоць гэта відавочна не так. Чырвона-карычневых Лукашэнка цалкам задавальняе. Яны разам апантана лепяць «інтэграцыю», «адраджаюць сувязі» і лепшага ім не трэба. Тады Ельцын? Але навошта? Ён і так трымае А.Лукашэнку на кароткім павадку і робіць усё, што хоча. Расійскія алігархі? Відаць, малаверагодна. Бо ў алігархаў свае праблемы ў Маскве. Ім самім трэба не прайграць расійскія выбары. Ды і куды падзеліся магчымыя ў гэтым выпадку грошы на кампанію, якіх не было?

І зараз, калі сам Пазьняк прызнае, што «Праект» праваліўся, што Чыгіра «кінулі», ён не дае ніякага рацыянальнага тлумачэння ні сваёй версіі, ні сваёй памылцы. Усе варыянты развіцця падзей ён пачынае словамі: «Калі выйграе Чыгір, то...» і «Калі выйграю я, то...» І пішацца гэта пасля таго, як «Праект Чыгір» «рассыпаўся ў пыл». Ці не з-за факса? Проста нейкая віртуальная рэальнасць. Сон розуму.

З.Пазьняк не ўлічыў відавочнае. Г.Карпенка перад Новым годам сустракаўся з У.Канаплёвым, які мог падкінуць яму гэтую версію. Вось хто прама і непасрэдна быў зацікаўлены ў зрыве выбарчай кампаніі па Канстытуцыі-94. Але З.Пазьняк, які думаў толькі аб уласнай перамозе, над атрыманай інфармацыяй думаў нядоўга. Яшчэ меней думаў С.Папкоў. Калі ўвечары стаў вядомы змест атрыманага факсу, кіраўніцтва амаль аднадушна прызнала немэтазгодным шырокае распаўсюджанне зместу ліста (і, нават, па тэлефоне проста з сядзібы пераканала З.Пазьняка ў тым, што трэба хаця б замяніць назву), то высветлілася, што Сяргей Пятровіч ужо разаслаў факс па ўсіх СМІ. Вось бы яму такую энергію для пошукаў крыніц фінансавання Фронта, для чаго менавіта яго і выбіралі ў кіраўніцтва.

Замест гэтага Сяргей Пятровіч выкарыстаў скандал (які выклікаў факс) для таго, каб распачаць сачыць за дзеяннямі групы падтрымкі другога кандыдата. Гаварыць пра рацыянальны сэнс гэтых дзеянняў немагчыма, бо закон патрабуе ад групы падтрымкі толькі сабраць больш як 100 тысяч законна аформленых подпісаў грамадзянаў. І не дазваляе кіраўніку адной групы кантраляваць дзеянні іншых груп. Аднак С.Папкоў па старой камуністычнай звычцы, верагодна, лічыў, што партыйны загад вышэй, чым закон. Адкуль шэраговым фронтаўцам было ведаць, што ўсклаўшы на сябе грамадзянскі абавязак працаваць у выбарчых камісіях, яны вызваляюцца ад партыйных абавязкаў, апрача абавязку добрасумленна выконваць сваю працу. А тых, хто гэта ведаў, С.Папкоў запалохваў, выключаў(!) з БНФ, выганяў з сядзібы, як гэта адбылося з Б.Гюнтарам. Самае дзіўнае, што закон адкрыта парушаў чалавек, які паўсюдна і пры любой магчымасці гаварыў пра «строгае выкананне закона».

Менавіта тады ён агучыў так званы «рашучы варыянт», пад якім разумеўся зрыў выбарчай кампаніі пад штучнай падставай «фальсіфікацыі вынікаў выбараў». І яшчэ больш штучнай падставай, што магчымая фальсіфікацыя кідае цень на БНФ.

Наконт законнасці (паводле міжнародных нормаў) выбараў, якія праводзяцца ва ўмовах рэпрэсій, я ўжо гаварыў. Пра немагчымасць прызнання іх вынікаў яшчэ ў красавіку заявіла група АБСЕ. У пачатку траўня - амбасадар ЗША. Але ніхто не заклікаў спыніць кампанію, нават з-за акіяна, разумеючы яе як палітычны сэнс. Фальсіфікацыя звязана з законнасцю. Калі нельга вытрымаць усе дэмакратычныя нормы, любыя вынікі - фальсіфікацыя. Але тыя, хто крычаў пра фальсіфікацыю, яшчэ да пачатку галасавання, мелі на ўвазе зусім іншае - хто пераможа? І, на жаль, атрымалі падтрымку з боку З.Пазьняка. Ён і распачаў чарговы скандал, патрабуючы ад ЦВК «галасавання ў адзін дзень». Дзіўным чынам лідар дэмакратычнай арганізацыі не разумеў, што пры катастрафічным недахопе грошай, скрыняў, нават бюлетэняў, пры немагчымасці арганізацыі стацыянарных выбарчых участкаў і адпаведнай інфармацыі пра тое, дзе яны знаходзяцца, галасаванне ў адзін дзень ёсць ні што іншае, як грубае абмежаванне правоў тых, хто жадае прагаласаваць. Гэта азначае фальсіфікацыю вынікаў выбараў. Антынамія: заклікаючы да па-свойму зразумелай законнасці, З.Пазьняк фактычна патрабаваў фальсіфікацый. Я ўжо не кажу пра тое, што па закону менавіта ЦВК арганізуе выбары, у тым ліку і датэрміновыя.

З.Пазьняк усё ж рэалізаваў «рашучы варыянт» С.Папкова. Рэалізаваў з парушэннем Статуту Фронта, ігнаруючы рашэнні Сойму. І дамовы, што з Чыгіром, што з Ганчаром. Праігнараваўшы ахвяры, прынесеныя сябрамі БНФ і скампраметаваўшы сам БНФ. Вельмі цікава чытаць яго развважанні пра мараль, дзе ён ніводным словам не згадвае ні пра Статут, ні пра свае хітрыкі, ні пра свае памылкі. Сапраўды, «апафеоз маралі». Сам вынес прысуд, сам рэалізаваў пакаранне. Што гэта? Ці старшыня не ведае Статута? Альбо лічыць сябе вышэй за яго?

Як бы там ні было - усё гэта выстройваецца ў пэўную невыпадковую лінію. Лінію, скіраваную на задавальненне перабольшаных амбіцый адной асобы. Лінію, якая вядзе да ізаляцыі Фронту, кампраметацыі ідэі Адраджэння, расколу БНФ. У мяне ёсць лісты, у якіх адны ўхваляюць учынак З.Пазьняка, а другія заяўляюць аб выхадзе з Фронту.

Але я лічу, што БНФ не з'яўляецца нічыёй уласнасцю. Ён належыць Беларусі. У Беларусі будзе дрэнна, калі Фронт знікне. Мы не павінны дапусціць гэтага. Але павінны зрабіць вывады з гэтай сітуацыі. І, у прыватнасці, не дапускаць С.Папкова і яго кампанію да падрыхтоўкі бліжэйшага З'езду. Бо людзі, якія не лічацца са Статутам, сфальсіфікуюць нам і З'езд.

Я наўмысна не закранаў тых шматлікіх спробаў патлумачыць С.Папкову існасць яго раскольніцкай дзейнасці. Не спыняўся на цяжкасцях, якія выпалі на долю Л.Баршчэўскага, які ўсімі сіламі імкнуўся не дапусціць расколу і зрыву выбарчай кампаніі. І я прашу прабачэння ў тых сяброў Сойму і БНФ, якія чакалі зразумелай тактыкі Фронту, пакутавалі ад хаосу і перажывалі расчараванне. Я хачу заклікаць іх да мужнасці і веры ў Бацькаўшчыну. Спадзяюся, мы гэта перажывем.

Не спыняўся я і на канчатковых лічбах, агучаных ЦВК. Што 53 працэнты, што 5,3 працэнта - лічбы юрыдычна нікчэмныя. Але мы, зразумела, павінны патрабаваць і ад ЦВК, і ад Ганчара дакладнага высвятлення сваіх крыніц інфармацыі. Перабольшаныя лічбы могуць быць вынікам дзейнасці лукашэнкаўскай агентуры. Сумленныя сябры БНФ, я перакананы, не маюць да гэтага ніякага дачынення.

Цяжка і горка рабіць такі даклад на 11-м годзе існавання БНФ. Аднак іншага выйсця няма. Хвароба толькі паглыбляецца. Таму БНФ альбо ачысціцца, альбо загіне.

**Юрый Хадыка,**
**намеснік старшыні БНФ**
**«Адраджэнне»**

# Грамадзе зноў адмовілі

**Гарадзенская філія БСДГ мела намер правесці 8 чэрвеня інфармацыйны пікет. На ім мясцовыя грамадоўцы хацелі выказаць свой пратэст супраць аб'яднання Беларусі з Расіяй, прыцягнуць увагу грамадскасці да небяспекі страты дзяржаўнага суверэнітэту. Гарадскія ўлады на гэтае законнае памкненне адрэагавалі традыцыйна - забаронай.**

У рашэнні гарвыканкама гаворыцца наступнае: «проведение заявленного мероприятия будет способствовать нагнетанию национальной неприязни между белорусским и русским народами. Кроме того, объединение двух государств осуществляется на основе прямого волеизъявления белорусского народа в ходе общереспубликанского референдума» (?!). Каментуючы гэтае рашэнне, адзін з лідараў Гарадзенскай філіі БСДГ Віктар Сазонаў ахарактарызаваў матывацыю ўладаў як абсурдную. Ён падкрэсліў, што Грамада імкнецца дзейнічаць у межах прававога поля, але «вертыкаль» увесь час правакуе на несанкцыянаваныя дзеянні. Нагадаем, што напрыканцы красавіка гарадзенскай БСДГ адмовілі ў правядзенні чарнобыльскага мітынгу-рэквіему. У такіх умовах палітычным партыям хутка давядзецца пераходзіць на нелегальнае становішча.

**Ул.інф.**

# ЗША настойваюць на вызваленні Чыгіра

**ЗША па-ранейшаму настойваюць на вызваленні Міхаіла Чыгіра з-пад варты, а таксама на спыненні практыкі ўтрымання ў няволі прадстаўнікоў беларускай апазіцыі.**

Пра гэта заявіў пасол ЗША Дэвід Джонсан, выступаючы 3 чэрвеня ў Вене перад Пастаянным Саветам АБСЕ. Спадар Джонсан нагадаў, што зняволенне кандыдата ў прэзідэнты Міхаіла Чыгіра, цягнецца ўжо 9 тыдняў з моманту яго арышту «па надуманых абвінавачаннях у растраце сродкаў». Пасол таксама запэўніў, што «ЗША будуць працягваць рашучую падтрымку ідэалаў дэмакратыі і правоў чалавека на Беларусі і будуць па-ранейшаму настойваць на вяртанні Беларусі на шлях дэмакратычнага развіцця, на які яна ўстала пасля абвяшчэння незалежнасці ад былога Савецкага Саюза».

У заяве па Беларусі пасол ЗША таксама перадаў шчырае спачуванне жыхарам рэспублікі, сем'ям пацярпелых у сувязі з трагічнай гібеллю напрыканцы мінулага тыдня ў Мінску 52 чалавек, выказаўшы спадзяванне, што падобная бяда больш ніколі не паўторыцца.

**Юрый Аляксееў**

# АБСЕ тлумачыць Гайдукевічу, чаму яго не запрасілі на пасядзелкі ў Бухарэсце

**Старшыня беларускай Ліберальна-дэмакратычнай партыі (ЛДП) Сяргей Гайдукевіч атрымаў ад Кансультацыйна-назіральнай групы (КНГ) АБСЕ ў Беларусі адказ на свой ліст, накіраваны ў місію 31 траўня.**

Нагадаем, што ў сваім пасланні на імя кіраўніка КНГ АБСЕ ў Беларусі Ханса Георга Віка і кіраўніка рабочай групы па Беларусі пры Парламенцкай Асамблеі (ПА) АБСЕ Адрыяна Севярына, лідэр ЛДП выказаў нязгоду з прапанаваным АБСЕ складам беларускай дэлегацыі ад апазіцыі, запрошанай да ўдзелу ў трохбаковых слуханнях па Беларусі, якія пройдуць у Бухарэсце 11—13 чэрвеня пад эгідай АБСЕ. С.Гайдукевіч, у прыватнасці, выказаў неразуменне, што ў склад удзельнікаў дыскусіі не былі ўключаны лідэры «дзвюх найбуйнейшых партый» Беларусі — ЛДП і БНФ, а таксама старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Сямён Шарэцкі і кіраўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч.

У адказе кансультацыйна-назіральнай групы, падпісаным Хансам-Георгам Вікам, адзначаецца, што сустрэча ў Бухарэсце павінна стаць «адным з найважнейшых крокаў у шматлікіх стараннях АБСЕ па далейшай дэмакратычнай трансфармацыі ў Беларусі». Адсутнасць жа ў складзе запрошаных лідэра Ліберальна-дэмакратычнай партыі КНГ АБСЕ тлумачыць недахопам сродкаў для правядзення «нефармальнай» сустрэчы ў Бухарэсце.

У дакуменце таксама адзначаецца, што падчас сустрэчы «прадугледжваецца правесці кансультацыі з прадстаўнікамі палітычных груп па абмеркаванні магчымых прапаноў, якія будуць прыняты ў выніку дэбатаў». Разам з тым, як згадваецца ў лісце, «такога кшталту сустрэча не прадугледжвае прыняцця абавязковых рашэнняў».

**Юрый Пацёмкін**

# «Навіны» паўтараюць лёс «Свабоды»

**Міжнародная грамадская арганізацыя «Арцікул 19» накіравала адкрыты ліст прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку, у якім выказала крайнюю заклапочанасць у сувязі з магчымым закрыццём недзяржаўнай газеты «Навіны».**

26 траўня Дзяржаўны камітэт па друку Беларусі вынес газеце другое папярэджанне на працягу года. Першае папярэджанне «Навіны» атрымалі за публікацыю дакументаў, датычных прэзідэнцкіх выбараў, праводзімых Вярхоўным Саветам Беларусі 13-га склікання. Другое папярэджанне з'явілася ў сувязі з публікацыяй артыкула Аляксандра Дубравіна пад назвай «Карбункулы законности». Артыкул быў прысвечаны надрукаванаму ў штотыднёвіку «Свободные новости» адкрытаму лісту групы супрацоўнікаў міліцыі, якія асуджалі дзеянні вядомага дзеяча ад апазіцыі, былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі. Кіраўніцтва Дзяржкамдруку палічыла, што аўтар артыкула распальвае сацыяльную варожасць і зневажае гонар супрацоўнікаў міліцыі.

Але, на думку выканаўчага дырэктара «Арцікула 19» спадара Эндрю Падэфата, палажэнне заканадаўства, якое было выкарыстана для вынясення папярэджання газеце, уваходзіць у лік тых замацаваных беларускім заканадаўствам норм, якія супярэчаць абавязацельствам Беларусі па міжнародных пагадненнях. У прыватнасці, міжнародным правам замацавана, што свабода слова ўключае ў сябе свабоду крытыкі службовых асоб. Згодна з нядаўнім заключэннем Еўрапейскага суда па правах чалавека, хаця супрацоўнікі паліцыі могуць карыстацца пэўнай ступенню абароны ад крытыкі, тым не менш, гэтая ступень ніжэйшая, чым у прыватных асоб.

«Арцікул 19» нагадвае беларускаму прэзідэнту аб тым, што гэтая міжнародная арганізацыя разглядае захады, прадпрынятыя ўладамі ў дачыненні газеты «Навіны», як частку кампаніі, накіраваную на знішчэнне іншадумства і незалежных СМІ.

Намеснік галоўнага рэдактара «Навін» Мікалай Халезін заявіў, што газета мае намер абскардзіць другое папярэджанне. Аднак, на ягоную думку, магчымасць ануліравання папярэджання мінімальная. Спадар Халезін адзначыў, што заканадаўства дазваляе Дзяржкамдруку ініцыяваць судовы працэс па закрыцці газеты пасля двух папярэджанняў на працягу года. Намеснік рэдактара «Навін» таксама адзначыў, што ў выпадку, калі гэтае выданне будзе закрыта, рэдакцыя пачне выпускаць новую газету пад назвай «Наша свабода», якая ўжо зарэгістравана. Нагадаем, што цяперашнія «Навіны» сталі пераемнікам газеты «Свабода», рэгістрацыя якой была ануляваная беларускім уладамі напрыканцы 1997 года.

**Іван Міхайлаў**

 



# Дождж...

Дужа балюча пісаць гэтыя радкі. Адкладваў - лічыў, што нельга мне, не сведку, пісаць пра трагедыю, якая разыгралася на Нямізе вечарам таго чорнага дня. Але ўсё часцей чую з вуснаў афіцыйных асобаў ды ў выказваннях афіцыйных СМІ, што ў трагедыі ніхто не вінаваты, - не вытрымаў. Захацелася зрабіць нейкія высновы з вядомых мне (з розных крыніц) фактаў, ў тым ліку афіцыйных.

Такім чынам - Няміга, гулянне, піва, дождж, уцёкі, натоўп, пераход, метро, ціск, паніка, вар'ятства... У гэтым пекле гінуць людзі, у асноўным маладыя дзяўчаты. Гэта сухія факты. А вось афіцыйны пункт гледжання нашага прэзідэнта: «Нікога не абвінавачвайце, ніхто ў гэтым не вінаваты». Апошняе дзіўна, як лічыце? Калі такое сцвярджае самагубца ў перадсмяротнай запісцы, яго можна неяк зразумець, а тут...

Прэзідэнту - прэзідэнтава, а вось што сцвярджаюць сведкі трагедыі. У такі крытычны момант многія маглі ўратавацца, схаваўшыся ў метро, але міліцыянты не пускалі людзей і патрабавалі праходзіць па аднаму, стаўшы ў чаргу?! Дзікунства!!! - падумаў я. Але ж супакоіўся і паспрабаваў зразумець ход думак ахоўнікаў дзвярэй. Мо тыя не так і вінаватыя? Чаму іх вучылі, тое яны і рабілі. Мы ж памятаем гэтую навуку з дзяцінства: «узяліся за ручкі», «не высоўвайся», потым далей: «па ранжыру», «ты што, самы разумны?», «рукі за галаву!». Далей: «прад'явіце пашпарт», «пакажыце прапіску», потым: «загад начальніка - закон для падначаленага», «выконвайце загад, - думаць за вас будзе камандзір». Бачыце, як думаць - камандзір, а адказваць даводзіцца падначаленым? Вось так весела, у нагу і дакрочылі мы да Нямігі, так нічога і не зразумеўшы (пасля трагедыі некаторыя, кажуць, пайшлі танчыць, напэўна ж, - «цвярозыя»).

І тут само сабой напрошваецца пытанне: няўжо вінаватыя толькі дождж ды азвярэлы натоўп «цвярозых»? Думаю, ёсць і іншыя вінаватыя, у тым ліку камандзіры ахоўнікаў дзвярэй, на чале з генералам Тарлецкім. (Дарэчы, вось як генерал бачыць сваю ролю ў дзяржаве. Падчас выступу па БТ ён так і сказаў: «Мы государевы люди»). Таму я думаю, ахоўнікі метро выконвалі загад «государева человека» - сцераглі народную маёмасць. А гэта - дзверы, шкло, парэнчы ды мармур. А што людзі? А нічога, яны не на балансе дзяржавы. І ўвогуле, скажыце, калі з савецкіх часоў у нашай краіне шанавалі чалавека? Нам заўсёды патрэбна была адна перамога, «одна на всех, мы за ценой не постоим».

Яшчэ факт. Ноччу прэзідэнту далажылі (паводле яго ных словаў), што загінула 20 чалавек. Прэзідэнт: «Я ужаснулся». Потым сказалі, што загінуў адзін чалавек. Прэзідэнт: «Стало легче». Праз некаторы час абвесцілі - загінула 54 чалавекі. Вось так. А дакладвалі тыя ж «государевы люди». Не хацелі турбаваць «бацьку». Таму мяне не надта здзівіла, калі прэзідэнт з «пылу-жару» на месцы трагедыі адразу заявіў, што не трэба шукаць вінаватых, тут ніхто не вінаваты. Вінаватыя абставіны, г.зн. дождж. Цікавая думка (калі не сказаць горш). Загінулі людзі, і ніхто не вінаваты... Толькі дождж? Прабачце, але дажджы на зямлі ідуць кожны дзень. Колькі тады павінна... Жах ды й годзе!

Праўда, пазней прэзідэнт выказаўся інакш: маўляў, будзе створана камісія па слядах трагедыі. Даволі дзіўна. Аляксандр Рыгоравіч, аксіцеся, ніхто не вінаваты (самі казалі). Чыю ж віну тады тая камісія будзе разглядаць? Віну дажджу? А мо віну Хрыстоса? Толькі так я гэта разумею. Бо калі «бацька» прамовіў - «не виновен никто», так яно і будзе. І ніякія бажэлкі яго не аслухаюцца. Вы памятаеце, Старавойтаў быў яшчэ на волі, а «бацька» яму кляймо - «он жулик». І вось вам вынік: «пацягне» зараз стары, хворы, заслужаны чалавек свой тэрмін «от звонка до звонка», не сумнявайцеся. А ў нашым выпадку - ніхто не сядзе. Таму што слова «бацькі» - закон для «світы», «государевых людей». Гэткі міні-Нерон. Хачу пакараю - хачу злітуюся.

Памятаеце (не да месца) няўграбную спробу прэзідэнта адкупіцца грашыма ад бацькоў за загубленыя душы. (Дарэчы, пасля афіцыйныя СМІ агідна трубілі накont грашовай дапамогі). Хіба прэзідэнту куды слушней, па-мойму, на гэтых трагічных прыступках «Нямігі» проста папрасіць прабачэння за тое, што не здолелі зберагчы дзяцей.

Яшчэ факт. А вось і вінаватыя, - пачакайце, зараз. Прэзідэнт на прыступках той жа «Нямігі» прадказальна «сядае» на свайго ўлюбёнага «каньку» - дэмагогію. Маўляў, не трэба з гэтай трагедыі збіраць палітычныя дывідэнды! Зразумелі, у чый бок камень? Так, у апазіцыю. (Дарэчы, якая тады і рот не раскрывала, хіба што яшчэ спала). Далей - болей. Прынамсі,..усе распусціліся, «развели демократию», «митингуют», «хватит, вот мы вам!», «нужно укрепить власть» і г.д. Адным словам, чалавека «панесла»... Зараз вы зразумелі, хто можа застаца пацярпелым? І вывад адзіны: каб надалей пазбегнуць такіх трагедый, для ўсіх будзе абвешчаны загад Вярхоўнага - «больше трёх не собираться». Вось гэта і ёсць цынізм, гэта і будзе - на чужой бядзе знаходзіць сабе карысць. Як там у рускіх - «чем хуже - тем лучше».

Што тычыцца апазіцыі, то яна хоча аднаго: людзі павінны ведаць праўду. Што тут кепскага? Дык не, нам лепш падавай афіцыйную хлусню. Так яно спакайней. Мы грэбуем праўдай, бо яна горкая. І тады мы, нібы зомбі, гатовы паўтараць «никто не виноват», і ў гэтым наша бяда. Я падумаў: чорт яго ведае, мо на БТ сапраўды пракручваюць 25-ы кадр для замбавання. Іначай як можна слухаць нядаўні «бред сивого мерина» ў адной з яго перадач: як дрэнна зрабіла апазіцыя - выявіла Курапаты. А там зараз наладжваюць пікнікі ды выкопваюць косці з магілаў. «Сівому» адразу хачу заўважыць: выкрыццё Курапатаў - заслуга не цяперашняй апазіцыі, а БНФ. А гэта, скажу я вам, не адно і тое ж. Таму ў цябе, «рэзанатар», зараз у апазіцыі і тыя, якім раней ты лізаў... А паскудзяць у Курапатах падобныя да цябе люмпены, табою ж і замбаваныя.

І вось улады ўжо на ўсю моц трубяць - апазіцыя вінаватая ў тым, што раздзімае трагедыю на Нямізе. Ах, як хацелася б уладам, каб людзі ведалі пра тую трагедыю як мага менш і забыліся на яе як мага хутчэй. Апазіцыя для вас - костка ў горле. І вось тут да немагчымасці дарэчы вам 25-ы кадр БТ у выглядзе «губошлёпа» & К. Ён супакоіць электарат, заб'е яго вушы чарговай хлуснёй і «непрыкметна» перавядзе стрэлкі віны ў патрэбным для «хозяев» кірунку (ведаеце, на каго?). І мы яму паверым. Паверым у віну дажджу, у віну прыступак, у віну апазіцыі, узгадаем нядобрым словам Бога (маўляў, не дапамог, не спыніў), і хто яго ведае, у што яшчэ. Абы не ў віну канкрэтных людзей. Бо ў такім выпадку давядзецца некага канкрэтнага (не дождж) асудзіць і пакараць. Дарэчы, на самым высокім узроўні - у першую чаргу. Яны ж нашыя «руководители», што даслоўна - «вадзіць рукою». Тады мы думаем: як жа так? Мы ім так верылі! І нараджаецца думка з 25-га кадра БТ - гэтага не можа быць, таму што не можа быць ніколі. Яны ж, відаць, бязгрэшныя!? Іх нельга чапаць! «Небожители» нашы!

Ну а тое, што баліць пад дыхавіцай...ды цяжка, моташна на душы - нічога, пройдзе... А калі не, уключым праграму БТ, пагледзім ды паслухаем іх віртуальную рэальнасць ды супакоімся, нібыта ад таблеткі валідолу.

Галоўнае пасля гэтага - завесіць шторы і не глядзець у вакно, на вуліцу. Бо там існая рэальнасць...і дождж... дождж... дождж...

А.С.

# Лукашэнка супраць усякага палітыканства, акрамя ўласнага

**Выступаючы 31.05.99 года па БТ у сувязі з масавай гібеллю моладзі ў падземным пераходзе «Няміга» г.Менска, Аляксандр Лукашэнка рашуча крытыкаваў «усякае палітыканства», звязанае з гэтай трагедыяй, акрамя ўласнага палітыканства.**

Мэтай выступлення А.Лукашэнкі было перш за ўсё дапусціць выказванне якіх-небудзь меркаванняў нават на БТ, апроч уласных і добра адрэпетаваных «вертыкальных» думак ці разважанняў.

Перш за ўсё прэзідэнт Беларусі абвясціў пра стварэнне чарговай бюракратычнай камісіі з новымі чыноўнікамі і новымі паўнамоцтвамі гэтых чарговых вертыкальшчыкаў.

Гэтая камісія, паводле словаў А.Лукашэнкі, належным чынам разбярэцца ў тым, што здарылася, і вынясе свае беспамылковыя меркаванні, папярэдне ўзгодненыя з вертыкаллю альбо нават з самім «бацькам».

Такім чынам, катэгарычна, адназначна, даступна электарату і зразумелым усім метадам А.Лукашэнка ўстанавіў межы ды інтэлектуальныя магчымасці мыслення беларусаў унутры краіны і ў дыяспары. Межы разумення і глыбіня аналітычнага аналізу гэтага здарэння будуць абмежаваны інтэлектуальнымі магчымасцямі і ступенню адданасці самому «бацьку» членаў чарговай вертыкальнай камісіі. Усялякія іншыя думкі і меркаванні не будуць разглядацца камісіяй з вертыкальных чыноўнікаў.

Нават у будучым ніводны беларус не зможа ў сваіх ацэнках наконт здарэння выходзіць за межы, што ўсталююць «бацькавы» вертыкальшчыкі з чарговай (якой ужо па ліку) камісіі.

Прадухіляючы магчымыя новыя факты і меркаванні, А.Лукашэнка, нават не ўнікаючы ў іх сэнс, агульна назваў іх «палітыканствам».

Адначасова «бацька» падказвае магістральную сцежку сачынення версіі новай вертыкальнай камісіі.

Яшчэ не паспеўшы абвясціць барацьбу з палітыканствам, А.Лукашэнка ўжо ў гэтай прамове вінаваціць у трагедыі дэмакратаў і дэмакратыю. Адпаведна яго ным словам, якраз дэмакраты толькі і рабілі тое, што даказвалі неабходнасць рабіць і ўчыняць тое, што каму і калі будзе пажадана. (Тут прэзідэнт мае на ўвазе апраўдаць арышты дэпутатаў Вярхоўнага Савета, «вымушаныя» ўцёкі Т.Віннікавай, выкраданне Ю.Захаранкі, арышт М.Чыгіра і г.д.)

«Дэмакратыя, - вяшчаў далей прэзідэнт Беларусі, - дазваляе нам многае рабіць». І тут толькі можна дадаць ад сябе: дазваляе рабіць ва ўмовах Канстытуцыі і правапарадку. Сапраўды, ва ўмовах дэмакратыі і правапарадку няма неабходнасці атрымліваць дазвол на ўваход ў падземны пераход у неканстытуцыйных і нават канстытуцыйных органаў улады.

Станіслаў Урбановіч

# Бельгійская курацiна і амерыканскі спірт

**Яшчэ не сціх гучны скандал, звязаны з вытворчасцю і пастаўкамі з Бельгіі курынага мяса, якое змяшчае небяспечныя атруты. Імпартная птушка паступае і на Беларусь. У красавіку на Гарадзеншчыне было канфіскавана 19 тон замарожанага курынага фаршу.**

Санітарныя ўрачы супакоілі: у той партыі бельгійскага прадукта было знойдзена зусім не тое, што так перапужала Расію. Да таго ж, фарш прайшоў адпаведную прамысловую перапрацоўку. А сама канфіскацыя прадуктаў харчавання - справа звыклая. Нормай з'яўляецца і гігіенічная экспертыза канфіскаваных прадуктаў. За пяць месяцаў гэтага года ў абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі было пададзена 397 заявак. Гэта звароты мытнікаў, падатковых інспекцыяў, міліцыі і г.д., якія і канфіскуюць пры пэўных абставінах прадукты харчавання.

Больш за ўсё заявак - недзе 50 працэнтаў - паступіла з Ашмянскага раёна. Цераз яго праходзяць патокі імпартных тавараў (бананаў, цытрынаў і г.д.). І калі ў суправаджальных дакументах яўны непарадак, прадукты ідуць ў даход дзяржавы. Прадукты купляе насельніцтва. За выключэннем тых выпадкаў, калі іх канчаткова бракуюць санітарныя ўрачы. Альбо прадукты перапрацоўваюцца, а потым іх пускаюць у справу.

У гэтым годзе на Гарадзеншчыне канфіскавана пяць тон спірту, пераважна ў абласным цэнтры. Ці то амерыканскага, ці то польскага паходжання. А ў іншых выпадках паходжанне спірту і наогул невядомае. І ўсе 27 канфіскаваных партый спірту пайшлі на перапрацоўку. І цяпер прызначэнне такога «алкаголю» выключна тэхнічнае. А не пітное, як задумвалася «ценявікамі».

Памочнік урача-гігіеніста ГАЦГіЭ Галіна Гаўрусейка называе і такія лічбы. За пяць месяцаў бягучага года пасля гігіенічнай экспертызы ператворана ў даход дзяржавы 802 тоны прадуктаў харчавання. Да таго ж, доля малочных вырабаў (сыры, масла сметанковае ды інш.) склала 10 працэнтаў. Канфіскавана 350 тон прадуктаў мясной групы. Тут пераважае імпартная птушка. Група садавіны, гародніны, ягад, бульбы пацягнула на 305 тон. У гэтым годзе з канфіскаваных прадуктаў харчавання ніводнай партыі не дасталася быдлу.

Вад Айдараў

# Аматары IFOAM ездзілі ў Варшаву

**Нядаўна з Варшавы ў Гродна вярнуўся загадчык кафедры батанікі і фізіялогіі раслін Гарадзенскага сельгасінстытута Сяргей Тарасенка, прэзідэнт рэгіянальнай асацыяцыі «БелЭКО». Ён браў удзел у канферэнцыі, якая праходзіла пад эгідай Міжнароднай федэрацыі экалагічнага земляробства (IFOAM). Тэма дыялога: «Развіццё эканамічнага земляробства ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы». Яго вялі навукоўцы, спецыялісты з Венгрыі, Германіі, Грузіі, Чэхіі, Расіі, Славеніі, Харватыі ды іншых краін.**

- Захад перанасычаны сродкамі хімізацыі сельскай гаспадаркі, - гаворыць С.Тарасенка. І ён з надзеяй глядзіць на Усход. Яму патрэбны экалагічна чыстыя прадукты. Я толькі што атрымаў факс з Галандыі: просяць знайсці пастаўшчыка экалагічна чыстай абляпіхі і чарніц. Цана вельмі выгадная, аб'ёмы закупак не абмяжоўваюцца. Загвоздка ў тым, што Беларусь яшчэ не ведала ў дадзенай галіне сертыфікатаў міжнароднага ўзору. У нас знойдзецца і чыстая прадукцыя, і мы самі здольныя яе вырошчваць без мінеральных угнаенняў і пестыцыдаў. Гэта не крок назад, у пампасы. Гэта шлях у будучыню. Тыя ж біялагічныя прэпараты патрабуюць вялікіх ведаў і няпростых тэхналогіяў. Экалагічнае земляробства прыйдзе і на Беларусь, а сама Гарадзеншчына напярэдадні першых сертыфікатаў. Спадзяемся, што ўжо ў гэтым годзе іх атрымаюць дзве фермерскія гаспадаркі. Пры садзеянні IFOAM і бясплатна для фермераў.

Чакаецца, што увосень гэтага года ў Гродна пройдзе прадстаўнічы міжнародны семінар на базе рэгіянальнай асацыяцыі «БэлЭКО» і Гарадзенскага сельскагаспадарчага інстытута, які лідзіруе сярод аграрных вышэйшых навучальных установаў рэспублікі ў галіне даследаванняў праблем экалагічнага земляробства. Пра сваё жаданне ўдзельнічаць у семінары заявіў і прэзідэнт IFOAM спадар Гейл (Германія).

Вадзім Жураўлёў

# Прадпрымальнікі Смаргоні бастуюць

**Пайшоў другі тыдзень як у Смаргоні прадпрымальнікі прыпынілі працу.**

Асноўныя патрабаванні - зніжэнне фіксаванага падатку з сямі мінімальных заробкаў да пяці, упарадкаванне пытанняў па сертыфікацыі тавараў, а такса ма праверкі іх дзейнасці кантралюючымі органамі, спрашчэнне бухгалтарскага ўліку ды іншыя пытанні.

Алесь Дзергачоў

# Абласная канферэнцыя ТБМ старшынёй абрала Місцюкевіча

**6 чэрвеня ў актавай зале філалагічнага факультэта Гарадзенскага універсітэта адбылася абласная канферэнцыя Таварыства Беларускай Мовы імя Францыска Скарыны. На ёй прысутнічалі прадстаўнікі Гродна, Ліды, Мастоў, Зэльвы, Скідаля ды іншых гарадоў. Са справаздачай выступіў старшыня арганізацыі прафесар Павел Сцяцко. Ён распавядаў пра тое, што было зроблена на працягу апошніх гадоў і зазначыў урэшце рэшт наконт таго, што Адраджэнне беларускай мовы павінна ісці зверху.**

Выступоўцы з рэгіёнаў аднадушна пагадзіліся з ім і адначасова расказалі пра свае праблемы. Поруч з іншымі канферэнцыя вырашыла і арганізацыйныя пытанні. Сфармавала новы склад Рады абласнога таварыства ды абрала новага старшыню. Ім стаў Аляксандр Іванавіч Місцюкевіч, намеснік дырэктара вучэбнага цэнтра Гроднаэнерга. Намеснікамі зацверджаны Павел Сцяцко (г.Гродна), Тамара Прадзед (г.Гродна) і Станіслаў Суднік (г.Ліда).

Язэп Палубятка

 

# Чым далей на Усход...

**Параўнаем травеньскія кошты на прадуктовыя тавары заходняга - гарадзенскага і ўсходняга - магілёўскага рынкаў, аддаючы тым самым даніну радзіме першага прэзідэнта РБ напярэдадні святкавання «Дажынак-99» (незалежна ад будучага ўраджая!) у славутым горадзе Шклове.**

Адразу ж адзначым, што і ў Магілёве, і ў Гродне **(гл. табліцу N1)** змешчаны на паліцах магазінаў асартымент прадуктаў быў значна багацейшы за тое «изобилие», штоназіралася ў паўгалодным 1982 годзе - піку застойнага сацыялізму ў момант смерці Л.Брэжнева. Але, тым не менш, адрозненні паміж Гродна і Магілёвам ў травеньскім асартыменце і цэнах прыкметныя. Калі нават у фірменным магазіне N9 магілёўскага мясакамбіната з мяса была прадстаўлена толькі свініна па 441 тысячы рублёў за кілаграм (а народ яшчэ да адкрыцця магазіна - паўсотні чалавек - выстраіўся ў чаргу за касцямі і капытамі), то ў Гродне ў любым з магазінаў, дзе быў мясны аддзел, мелася ў наяўнасці тры-чатыры гатункі свініны (ад 383 да 627 тысяч рублёў за кілаграм), ялавічыны (ад 220 да 640 тысяч рублёў). А таксама мяса індычкі (497 тысяч рублёў), гусі патрошаныя першай катэгорыі (па 300 тысяч рублёў), паўфабрыкат для шашлыка (602 тысячы рублёў за кілаграм) і фарш «Абедзенны» (па 454 тысячы рублёў за кілаграм). Яшчэ больш прывабнымі былі цэны ў фірменных гарадзенскіх калгасных магазінах. Так, у «Вікторыі» (калгас імя Дзеньшчыкова) некалькі дзён запар свабодна, без чаргі, можна было купіць супавыя ялавічныя наборы - тыя ж косці па 86 тысяч рублёў (іх, дарэчы, не рэкамендуецца скарыстоўваць у ежу з-за павышанага ўтрымання радыёнуклідаў), ялавічыну першай катэгорыі (па 300 тысяч рублёў за кілаграм), свініну першай катэгорыі (па 338 тысяч рублёў) і рагу свінное (па 165 тысяч рублёў). Тут жа прадавалася калгасная каўбаса «Ялавічная» (паўвэнджаная, першага гатунку, па 447 тысяч рублёў), «Мотыльская» (па 479 тысяч рублёў), «Нёманская» (па 511 тысяч рублёў) і «Гарадзенская», вышэйшага гатунку, паўвэнджаная (па 590 тысяч рублёў за кілаграм).

Такім чынам, гарадзенскія кошты на паўвэнджаныя каўбасы (ад 447 тысяч да 1.030 тысяч рублёў за кілаграм) былі відавочна ніжэйшымі за магілёўскія (каўбаса «Далікатэсная» паўвэнджаная - 1.001 тысяча рублёў, «Маскоўская» - 1.008 тысяч рублёў за кілаграм). Але гэта зусім не сведчыць пра тое, што на Гарадзеншчыне ўсім жыць добра. Стаяць і тут па 5-6 гадзін у чарзе за таннымі вантробамі і субпрадуктамі (лёгкае, страўнік, сэрца) у фірменных магазінах гарадзенскага мясакамбіната.

У асноўным, крыху даражэй ў Магілёве і хлеба-булачныя вырабы (да 75 працэнтаў), крупы манныя (4,5 працэнта), макаронныя вырабы (на 33 працэнты). І вельмі дарагая ў Магілёве мука. Нават на «Задняпроўскім» рынку яна каштуе 100-115 тысяч рублёў за кілаграм, у той час як ў Гарадзенскім харчгандлі «ўсяго» 48 тысяч рублёў. Даражэйшая ў Магілёве і рыба. Прыкладам, кілька вострага пасолу, некалі надзвычай танны прадукт, тут каштуе 348 тысяч за кілаграм (у Гродне на 28 працэнтаў таннейшая), лешч халоднага вэнджання - 743 тысячы рублёў за кілаграм (у Гродне - 590 тысяч рублёў). Але затое на 8,8 працэнта ў Магілёве таннейшая каштуе ласосевая ікра - 911 тысяч рублёў за 140-грамовую бляшанку.

Як ужо заўважылі аналітыкі «Беларускага рынка» (N19), зніжаецца ў айчынным гандлі доля дзяржаўных магазінаў, але працягвае расці рэалізацыя прадуктаў праз прыватны гандаль рынкаў. Калі б не апошняя **(гл. табліцу N2)**, то ў Магілёве зусім было б «самотна», а для многіх і галодна. А так некім прадпрымальнікам Шухманам (ён, як сцвярджаюць, па сумяшчальніцтву з'яўляецца і дэпутатам мясцовага гарсавета) завалены - «заліты» ўсе рынкі нятанным рапсавым алеем - па 370 тысяч рублёў за літр. Прадаецца на магілёўскім «Задняпроўскім» рынку і адносна недарагі цукар-пясок (па 135 тысяч за кілаграм) з Вінніцкай вобласці Украіны, рыс з Расіі (па 190-200 тысяч) і алей з Луганска, Растова і Таганрога (па 390 тысяч рублёў за літр). На гарадзенскіх рынках гэты алей каштуе па 360 тысяч рублёў за літр.

Тут жа, на «Задняпроўскім» рынку па суседству з прадуктовымі латкамі размясціліся і палаткі з адзеннем. Як сцвярджаюць мясцовыя прадпрымальнікі, у іх ужо з'явілася ўзаемаразуменне з мясцовай службай экалогіі, якая два-тры разы на месяц правярае сертыфікаты на прамтавары. На гэтым магілёўскім рынку ёсць шмат карэйскіх тавараў (іх, у асноўным, пастаўляюць в'етнамцы), джынсы з Турцыі, Кітая і Тайланда (па 4.500.000-10.000.000 рублёў), айчынны ды імпартны абутак (кошты на 21 траўня **гл. у табліцы N2**).

**Сяргей Кануннікаў**

**Табліца N1**
**Магазінныя кошты ў Магілёве і Гродне, у трэцяй дэкадзе траўня (пададзеныя ў тыс.бел.рублёў)**

| | Магілёў | Гродна |
|---|---|---|
| Свініна | 441 | 338 |
| Ялавічына I катэг. | - | 300 |
| Супавы набор ялавічны | - | 86 |
| Каўбаса «Беларуская», сырая | 369 | - |
| Каўбаса вараная | 353 | 353-424 |
| Балык «Дарніца» | 1.208 | 1.240 |
| Балык «Сталічны» | 1.116 | - |
| Вяндліна | 875 | 887 |
| Рулет | 778 | 806 |
| Бекон «Любіцельскі» | 736 | - |
| Грудзінка | 719 | 508-683 |
| Кумпячкі курыныя смажаныя | 787 | - |
| Шынка | 1.140 | 889 |
| Шыйка свіная | 1.070 | 926 |
| Закуска да піва | 1.020 | - |
| Каўбаса «Далікатэсная» п/вэндж. | 1.001 | - |
| Каўбаса «Маскоўская» | 1.008 | 1.030 |
| Каўбаса «Нёманская» п/вэндж. | - | 511 |
| Каўбаса «Гарадзенская» п/вэндж. выш. гатунку | - | 590 |
| Сала вэнджанае | - | 431 |
| Масла сметанковае | 396 | 369-414 |
| Малако 3,2% тлуст., 0,5 л | 26,0 | 27,0 |
| Маргарын сталовы малочны, выш. гатунку, 250 г | 83 | 82 |
| Гарэлка «Руская», 0,5 л ды інш. | 227-251 | 228-267 |
| Хлеб аржаны, 0,7 кг | 37 | 21 |
| Багет, 0,28 кг | 41 | - |
| Сайка; 0,2 кг | 31 | 18 |
| Батон; 0,5 кг | 39 | 42 |
| Піва; 0,5 л | 69 і вышэй | 55 і вышэй |
| Цукар-пясок | - | 145 |
| Крупы грэцкія | 169 | 106 |
| Крупы манныя | 181 | 173 |
| Рыс цэлы | - | 216 |
| Ражкі | 141 | 106 |
| Вермішэль | - | 111 |
| Мука пшанічная | - | 48 |
| Кілька вострага пасолу | 348 | 272 |
| Ікра ласосевая, бляшанка 140 г | 911 | 990 |
| Лешч халодн. вэндж. | 743 | 590 |
| Мінтай халодн. вэндж. | 1.013 | - |

**Табліца N2**
**Кошты «Задняпроўскага» рынка ў г.Магілёве, пададзеныя ў тыс.бел.рублёў; на 21 траўня г.г.**

| | |
|---|---|
| **Прадукты харчавання** | |
| Цукар-пясок (Вінніцкая вобл.) | 135 |
| Рыс (Расія) | 190-200 |
| Мука выш. гатунку | 100-115 |
| Вермішэль (ф-ка «Садко», г.Магілёў) | 120-135 |
| Крупы грэцкія | 150 |
| Ражкі (Менск) | 130 |
| Алей рафінаваны (Растоў, Луганск, Таганрог) | 390 |
| Алей рапсавы | 370 |
| Алей (Германія) | 390 |
| Алей кукурузны (Францыя) | 460 |
| Спагеці | 170 |
| Памідоры (АТФ «Днепр») | 430 |
| Агуркі (АТФ «Днепр») | 270 |
| Апельсіны | 260-320 |
| Яблыкі імп. | 430-550 |
| Бананы | 300-340 |
| **Адзенне** | |
| Майкі баваўняныя | 600-1.500 |
| Джынсавыя курткі | 3.500 |
| Джынсы дзіцячыя | 2.600 |
| Джынсы для дарослых | 4.500-10.000 |
| Курткі мужчынскія (Карэя) | 4.200 |
| Курткі жаночыя (Карэя) | 4.000 |
| Вятроўкі (з плашчоўкі) | 3.000 |
| Тэнніскі Blue Star | 1.200-1.400 |
| Штаны спартыўныя Nike | 1.500 |
| Туфлі жаночыя імп. | 3.100-6.500 |
| Чаравікі мужчынскія | 3.000-4.200 |
| Красоўкі імп. | 3.500-6.500 |
| Кашулі мужчынскія (Турцыя) | ад 1.300 |
| Штаны мужчынскія (Турцыя) | 3.000-4.000 |
| Штаны дзіцячыя | ад 1.500 |
| Паліто жаночыя, доўгія (Карэя, свіная скура) | 20.000 |
| Курткі жаночыя (Карэя, свіная скура) | 17.000 |

***Заўвага: курс даляра на 21 траўня быў роўны 485 тысячам рублёў.***

## Усё, што ні робіць Нацбанк - да горшага

**Забарона на куплю і продаж дарожных чэкаў у замежнай валюце з аплатай у беларускіх рублях павінна садзейнічаць стабілізацыі валютнага рынку Беларусі.**

Такое меркаванне выказаў начальнік упраўлення інфармацыі Нацыянальнага банку краіны Анатоль Драздоў, каментуючы прынятае днямі праўленнем Нацыянальнага банка наконт гэтага рашэнне. А.Драздоў выказаў надзею, што такі захад дазволіць «закрыць» адну са схем ухілення суб'ектаў гаспадарання ад абавязковага продажу валюты на біржы, а таксама знізіць абарот «ценявога» валютнага рынку.

Разам з тым ён падкрэсліў, што рашэнне Нацбанка носіць часовы характар.

Па назіраннях «ценявых» аператараў валютнага рынку, пасля забароны на аперацыі з дарожнымі чэкамі на рынку стаў адчувацца недахоп беларускіх рублёў: дарожнымі чэкамі карысталіся так званыя «багатыя» валютчыкі. Паводле іх словаў, пошук новых схем працы з валютай зойме каля двух тыдняў.

**Дзмітрый Уласаў**

## Курсы валют

**На 9 чэрвеня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют.**

Даляр ЗША — 253.000 беларускіх рублёў. Еўра — 262.867,00. Нямецкая марка — 134.401,76. Расійскі рубель — 10.400. У параўнанні з учарашнім днём афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Менску раніцай 9 чэрвеня даляр куплялі па 425.000—430.000 і прадавалі па 435.000—440.000 рублёў. У параўнанні з учарашнім днём курс не змяніўся.

**На мінулым тыдні (31 траўня — 6 чэрвеня) курс даляра ЗША да беларускага рубля павялічыўся толькі на некаторых сегментах валютнага рынку краіны. Лідарам росту стала каціроўка даляра да безнаяўнага беларускага рубля на пазабіржавым рынку — 5,1 працэнта (з 485.000—505.000 да 510.000—530.000 рублёў).**

**На Беларускай валютна-фондавай біржы даляр падаражаў на 0,8 працэнта (з 250.000 да 252.000 рублёў), расійскі рубель —на 1,2 працэнта (з 10.230 да 10.350 рублёў). Нямецкая марка патаннела на 0,9 працэнта (са 133.850 да 132.700 рублёў), еўра — на 0,8 працэнта (з 261.700 да 259.600 рублёў).**

**На «чорным» рынку наяўнай валюты курс даляра знізіўся за тыдзень на 1,1 працэнта (з 435.000—440.000 да 430.000—435.000 рублёў пры куплі, з 445.000—450.000 да 440.000—445.000 рублёў пры продажы). Трэці месяц запар не змяняецца курс даляра ў абменных пунктах камерцыйных банкаў (290.000—300.000 рублёў пры куплі, 300.000 рублёў пры продажы).**

**Афіцыйны курс даляра да расійскага рубля, які ўстанаўліваецца Цэнтральным банкам РФ, знізіўся за мінулы тыдзень на 0,3 працэнта (з 24,44 да 24,36 рубля).**

**Дзмітрый Уласаў**

## Дэфолт нам не пагражае?

**Беларускі ўрад сёлета не апынецца ў стане дэфолта па знешніх плацяжах. Такое пункт гледжання выказаў начальнік упраўлення інфармацыі Нацыянальнага банка Беларусі Анатоль Драздоў.**

У другой палове 1999 года Беларусь павінна вярнуць шэраг крэдытаў, атрыманых 5-6 гадоў таму ад міжнародных фінансавых арганізацый. Згодна з ацэнкай штотыднёвіка «Белорусский рынок», сума плацяжоў па ўрадавых абавязацельствах павінна скласці прыкладна 180-200 мільёнаў даляраў ЗША. Усяго ж, па інфармацыі Міністэрства фінансаў, на пачатак 1999 года знешні доўг Беларусі складаў 1,2 мільярда даляраў ЗША.

Паводле словаў А.Драздова, у другой палове года сапраўды надыходзіць час выплат па крэдытах і пазыках, атрыманых ад міжнародных фінансавых і крэдытных арганізацый. Дакладную суму маючых адбыцца выплат ён не змог назваць, аднак не выключыў, што яна можа дасягаць 200 мільёнаў даляраў ЗША. Але, на думку гэтага супрацоўніка Нацбанка, беларускі ўрад у стане разлічыцца з даўгамі.

Анатоль Драздоў адзначыў, што краіна валодае ўласнымі замежнымі актывамі ў цвёрдай валюце, якія, паводле яго нага сцвярджэння, на канец першага квартала 1999 года складалі каля 340 мільёнаў даляраў ЗША.

Акрамя таго, лічыць начальнік упраўлення інфармацыі Нацбанка, неабходныя валютныя сродкі могуць быць адшуканы і ўнутры краіны. У прыватнасці, адзначыў А.Драздоў, на рахунку беларускіх суб'ектаў гаспадарання працягвае паступаць валюта, і яны паранейшаму абавязаны прадаваць дзяржаве 30 працэнтаў валютнай выручкі па курсе Нацбанка.

Садзейнічаць назапашванню дзяржавай неабходных валютных рэзерваў будзе і зніжэнне выдаткаў на імпарт энерганосьбітаў у выніку заканчэння ў красавіку ацяпляльнага сезона.

**Аляксей Арэшка**

## Тэрмін абароту чэкаў «Маёмасць» будзе падоўжаны

**Як стала вядома з крыніцы ў беларускім урадзе, падрыхтаваны праект пастановы, якая ўстанаўлівае новы тэрмін заканчэння абароту імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» — 30 чэрвеня 2002 года.**

Пагашэнне нявыкарыстаных ваўчараў, згодна з дакументам, пачнецца 1 ліпеня 2002 года і працягнецца да 20 чэрвеня 2004 года. Да 1 ліпеня 2002 года Міністэрства па кіраванні дзяржмаёмасцю і прыватызацыі павінна падрыхтаваць спіс рэфармаванай маёмасці, неабходнай для пагашэння нявыкарыстаных чэкаў. Спецыялісты выказваюць заклапочанасць слабым ходам працэсу прыватызацыі ў краіне. З пачатку прыватызацыі ў 1991 годзе і па 1999 год у краіне рэфармавана ўсяго 3.112 дзяржаўных аб'ектаў; з іх 1.038 аб'ектаў перавутварана ў акцыянерныя таварыствы.

Чакаецца, што гэтая пастанова будзе прынята ў першай палове чэрвеня. Тады ж у аддзяленні Ашчаднага банка павінен паступіць новы спіс акцыянерных таварыстваў (па некаторай інфармацыі, у гэтым спісе — больш за 60 АТ), каштоўныя паперы якіх абменьваюцца на чэкі «Маёмасць». Акрамя таго, Міндзяржмаёмасць планує ў бліжэйшай будучыні правесці чарговы чэкавы аўкцыён, выставіўшы на продаж 15 прадпрыемстваў, якія ўжо прадаваліся на чэкавых аўкцыёнах і ў аддзяленнях Ашчаднага банка.

**Наталля Кулагіна**

## Тэрмін ільготнай прыватызацыі кватэр заканчваецца 1 ліпеня

**Канстытуцыйны суд вынес 2 чэрвеня заключэнне аб неканстытуцыйнасці другой часткі артыкула 5 Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь», згодна з якой кватэра, заселеная некалькімі наймальнікамі, можа быць прыватызавана ў агульную долевую ўласнасць толькі ўсімі наймальнікамі адначасова. Такім чынам, згодна з існуючым сёння палажэннем, наймальнік пакою ў кватэры з агульнай кухняй не меў права прыватызаваць займаемую ім плошчу без згоды ўсіх астатніх жыльцоў «камуналкі».**

Вытворчасць па справе была ініцыявана 30 красавіка г.г. верхняй палатай Нацыянальнага сходу. Тлумачачы матывы, якія прымусілі парламентарыяў ініцыяваць справу, загадчык аддзела экспертна-прававога ўпраўлення сакратарыята Савета рэспублікі Нацыянальнага сходу Уладзімір Свіцін адзначыў, што норма другой часткі артыкула 5 Закона «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» супярэчыць канстытуцыйным нормам, паколькі ставіць тых, хто жыве ў асобных і камунальных кватэрах, у няроўнае становішча. У сваім заключным слове У.Свіцін прывёў таксама высновы на карысць неадкладнай адмены дадзенай нормы закона аб прыватызацыі.

Ён нагадаў аб тым, што 1 ліпеня г.г. заканчваецца тэрмін ільготнай прыватызацыі, і тыя кватэры ды ізаляваныя пакоі, якія ў чэрвені можна прыватызаваць за некалькі соцень тысяч рублёў, пасля 1 ліпеня будуць «каштаваць» ужо тысячы даляраў ЗША. Паводле яго звестак, часу, што застаўся да 1 ліпеня, дастаткова, каб афарміць і здаць заяўку на льготную прыватызацыю асобных кватэр ды ізаляваных пакояў у камунальных кватэрах. Не выключана, што гэтае выступленне адыграла сваю станоўчую ролю пры фармулёўцы рашэння КС: «лічыць разглядаемую норму страціўшай сілу са дня абвяшчэння рашэння», гэта значыць з 2 чэрвеня 1999 года.

**Уладзімір Траццякоў**

# Бясконцае свята

**28-31 траўня ў Менску праходзіў IV Беларускі міжнародны фестываль тэатраў лялек. Свята мела прадоўжыцца і першага чэрвеня, але з-за абвешчанай у краіне жалобы, завяршылася на другі дзень пасля трагічнага здарэння на станцыі метро «Няміга». Атрымалася, што артысты з розных краін пачалі «за здравие», а скончылі «за упокой».**



Пачалі «за здравие»...

Тым не менш, фестываль атрымаўся вельмі цікавы і пакінуў добрыя ўражанні. Спектаклі праходзілі на чатырох тэатральных пляцоўках: у Дзяржаўным тэатры лялек, Дзяржаўным маладзевым тэатры, Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Я.Купалы і на малой сцэне купалаўскага тэатра. У фестывалі прынялі ўдзел лялечнікі з усіх абласцей Беларусі, а таксама калектывы з Екацярынбургу і Омску (Расея), Бельска-Бялай (Польшча), Луцку (Украіна), Рыгі (Латвія). На вялікі жаль, не паспелі выступіць госці з Вільні і Дагестану, а прааннсаваныя ў праграме фестывалю артысты з Нямеччыны і Францыі ўвогуле не прыехалі ў Менск.

У межах газетнага артыкула не распавядзеш пра ўсе запрэзентаваныя пастаноўкі і не прааналізуеш кожны спектакль. Важныя хутчэй агульныя тэндэнцыі, якія пануюць сёння ў лялечных тэатрах постсавецкай прасторы. Менавіта пра гэта вялася гутарка на «круглым стале» фестывалю. Напрыклад, заслужаны артыст Украіны, галоўны рэжысёр Кіеўскага тэатра лялек Сяргей Яфрэмаў распавёў пра крызісныя і негатыўныя з'явы, якія назіраюцца ва ўкраінскіх тэатрах. Гэта і недастатковае фінансаванне з боку беднага Міністэрства культуры (часам артысты па тры месяцы не атрымліваюць заробку), свавольства мясцовага начальства, якое (як гэта здарылася ў Днепрапятроўску і Тарнопалі) без згоды спецыялістаў аб'яднала тэатры юнага гледача і лялечныя і г.д. Сёння на Украіне існуе 28 лялечных тэатраў, у якіх не забыліся на традыцыі «казацкай балаганшчыны» і «ўкраінскага вярцепу» а таксама на п'есы ў стылі казкі. Найбольш цікава ў гэтым накірунку працуюць лялечнікі з Івана-Франкоўска і Харкава. А вось лялечнікі Швецыі адмовіліся ад выкарыстання літаратурнай казкі ў спектаклі. Іх найбольш цікавіць унутраны свет сучаснага дзіцяці з ягонымі мроямі і фантастычнымі ўяўленнямі пра рэчаіснасць.

Сяргей Яфрэмаў ахарактарызаваў таксама фестывалі ў Луцку, Кіеве, Ужгарадзе і Львове (найбольш прэстыжны - Сусветны фестываль «Калядныя містэрыі» - адбываецца раз у тры гады). Словы ўкраінскага аўтарытэта пацвердзіла выступленне лялечнікаў з Луцку ў спектаклі «На Івана Купалу».

Гарачая дыскусія разгарэлася пасля выступлення галоўнага рэжысёра дзяржаўнага тэатра лялек Аляксея Ляляўскага, які ўзняў пытанне ўнутранай і знешняй свабоды творчай асобы на Беларусі. Ён выступіў супраць прывентыўнай цэнзуры і стварэння спектакляў пад густы начальнікаў ад культуры. Рэч у тым, што адзінай сур'ёзнай крыніцай фінансавання новых пастановак з'яўляецца дзяржзаказ. Каб атрымаць дзяржзаказ, трэба падаць у Міністэрства культуры тэкст п'есы на «прагляд і зацвярджанне». Але рэжысёр Ляляўскі не лічыць, што спектакль у лялечным тэатры абавязкова павінен грунтавацца на літаратурным творы.

Зрэшты, практыка гэтага, як і іншых фестываляў паказала, што большасць лялечнікаў выкарыстоўвае вядомыя літаратурныя сюжэты, пазычае персанажы з твораў сусветнавядомых пісьменнікаў, фальклору і г.д. Адна справа - чыста фестывальны спектакль, другая - пракатны, з дапамогай якога выконваецца спушчаны «зверху» г.зв. план. Тут выратоўвае толькі класіка, вядомая не аднаму пакаленню гледачоў. Вось і ў фестывалі дамінавалі пастаноўкі паводле літаратурнай класікі: «Гісторыя Снежнай каралевы» рэжысёра А.Ляляўскага (Менск), «Трагедыя пра Макбэта» А.Жугжды (Магілёў), «Хлопчык Мотл» В.Матроса (Гомель), «Сіняя птушка» Д.Нуянзіна (Брэст), «Брэменскія музыкі» В.Клімчука (Віцебск)... Гарадзенскія лялечнікі паказалі на малой сцэне купалаўскага тэатру свайго небезвядомага «Прыхадня» ў пастаноўцы М.Андрэева.

Паколькі з-за абвешчанай жалобы фестываль быў спынены, і не ўсе ўдзельнікі змаглі паказаць свае спектаклі, аўтарытэтнае журы вырашыла не прысуджаць гран-пры, а ўручыла ўсім удзельнікам ганаровыя дыпломы. Прысутныя стоячы віталі апладысментамі лялечнікаў з Екацярынбургу, якія раней паказалі спектаклі «Ілюзіён» і «Абразкі з выставы». Выступленні гэтых артыстаў праходзілі з аншлагам ды настолькі эфектна, што яны былі найбольш верагоднымі прэтэндэнтамі на гран-пры фестывалю.

Акрамя ўсяго па вечарах ў фае Дзяржаўнага тэатра лялек праходзілі нефармальныя клубныя сустрэчы артыстаў, падчас якіх між іншым адбыўся прагляд відэазапісу забароненага спектакля Гарадзенскага абласнога тэатра лялек «Ліпавічкі».

Свята для гарадзенскіх лялечнікаў прадоўжылася праз два дні пасля прыезду з фестывалю. З 4 па 9 чэрвеня будынак былога тызенгаўзаўскага тэатру і пляцоўка перад ім ператварыліся ў казачнае Лукамор'е. З дзецьмі гулялі пацешныя клоуны-скамарохі (студэнты вучылішча мастацтваў), праводзілі конкурсы і віктарыны, у фае дзейнічала арганізаваная супрацоўнікамі абласной дзіцячай бібліятэкі выстава кніг і малюнкаў, прысвечаная 200-годдзю А.С.Пушкіна. Акторы падаравалі ўдзячным гледачам спектаклі «Казка пра цара Салтана» (пастаноўка А.Жыгадлы, сцэнаграфія В.Розава, музыка М.Рымскага-Корсакава) і «Казкі Пушкіна» (пастаноўка М.Андрэева, сцэнаграфія А.Сурава, музыка П.Кандрусевіча). Адразу пасля юбілейных урачыстасцяў артысты пачнуць гастраляваць з гульнёвай праграмай «Прыгоды ў Лукамор'і» па дзіцячых летніках.

**Юры Гумянюк**

# Агрэсіўны страх вось-вось пастукае ў дзверы...

**Незалежныя беларускія дакументалісты стварылі новы відэафільм «Страх». Гэта своеасаблівы працяг шырока вядомай стужкі «Звычайны прэзідэнт». На гэты раз героямі твора сталі простыя людзі. Мы з вамі...**

Упэўнены, што кожны пазнае сябе, назіраючы за чаргой у краме, вулічнай мітуснёй, турэмнай камерай, разгонам мітынгу. Іншы дэмакрат нават адчуе пякучы боль ад міліцэйскай дубінкі, якой звар'яцелы «страж порядка» лупцуе японскага аспіранта ці журналістку Ірыну Халіп. Міліцыянтаў шмат, ажно рабаціннне ў вачах ад камуфляжнага адзення. Яны паўсюдна. У сваім менскім сабраце гарадзенскі, магілёўскі ці берасцейскі ўчастковы абавязкова, як у люстэрку, пабачыць сваё ўласнае адлюстраванне...

Гэта мы сунемся да прылаўка, і нас падганяе страх, што прадуктаў папросту ўсім не хопіць. І дасведчаны аператар Уладзімір Андронаў, які неаднаразова быў збіты міліцыянтамі на горкі яблык, фіксуе і наўмысна трымае ў кадры поліэтыленавы мяшэчак з дзесяткам яек. Каб кожны зразумеў: чалавек дамогся, вырваў сваё пад зайздросныя погляды доўгай чаргі.

А вось і ён, наш усенародна абраны. Вялікдзень. Святар падносіць прэзідэнту прыгожа распісанае яйка. Аляксандр Рыгоравіч шырока ўсміхаецца: «Не то яйцо вы мне даёця». І смех, і грэх, і страшна...

Рэжысёр Леанід Міндлін даў сваёй відэастужцы падзагаловак «Рэпартажы з цэнтра Еўропы». Фільм пабудаваны з асобных навел. Кожная мае назву - «Кароткі курс найноўшай гісторыі», «Камерная гісторыя», «Простая гісторыя», «Вясновая гісторыя». Вось жанчына з чаргі горка прызнаецца: «Я верыла яму». Гэта пра прэзідэнта. Цяжкі момант усведамлення ўласнай памылкі, як разбітай надзеі. Ніхто не хоча прызнацца, што яго проста ашукалі, як вераб'я на мякіне. Падманам зацягнулі на выбарчы ўчастак, салодкім спевам пра шчаслівае жыццё - на рэферэндумы, гнеўнымі выкрываннямі ўнутраных і знешніх ворагаў - на працоўныя месцы за капеечны заробак. Над усім гэтым лунае страх. Яго вірусам заражана беларускае грамадства. Са страху ніхто не дае здачы гарлахвату-міліцыянту, які б'е са страху, бо чакае, што нехта можа і пастаяць за сябе. А яшчэ з-за беспакаранасці.

Памятаеце пагрозлівае: «Мафія на Беларусі не прайдзёт!». І вось накідваюць кайданкі на рукі міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава. Сумна пазірае праз закратаванае акенца «варанка» Юрый Хадыка, запіхваюць у спецмашыну чарговага «мафіёзі», з рук якога толькі што вырвалі бел-чырвона-белы сцяг, цягнуць...

Стваральнікі фільма знайшлі ўдалы кінематаграфічны ход - саматужны духавы аркестрык грае просценькую бравурную мелодыю. У спалучэнні з адпаведным кадрам гэтая «музыка» халодзіць і хвалюе сэрца. І раптам становяцца зразумелымі неспакой і трывога на душы. Відовішча надзвычай нагадвае фільмы пра 1937 год і ўсё, што з гэтым звязана. Вось ён, ключ да разумення дакументальных падзей, адлюстраваных на відэастужцы!

...Японскі аспірант, жорстка збіты менскай міліцыяй, пільна ўзіраецца ў партрэт Аляксандра Лукашэнкі, нібыта хоча зразумець існасць гэтага чалавека. Жыхар Краіны Узыходзячага Сонца прыехаў у далёкую Беларусь вывучаць нашу філалогію. Здаецца, вывучыў на ўсё жыццё. Наш грамадзянін, які выпадкова трапіў пад «зачыстку», нават не паспеў зразумець, што да чаго, толькі галосіць: «За што! Скажыце, за што!?» Няма адказу.

Расійскі паэт Андрэй Вазнясенскі выказвае сваё абурэнне той жорсткасцю, з якой беларускія ахоўнікі правапарадку збілі знаёмую яму журналістку з Менска Ірыну Халіп. Паэту не зразумець уласную віну перад дзяўчынай. І ён, і ўся Расія павінна прасіць прабачэння. Бо гэта расіяне Чарнамырдзін, Строеў і Селязнёў спрычыніліся да вяртання на Беларусь страху.

Яшчэ два назіранні. Беларус з глыбінкі гаворыць, што больш не будзе галасаваць за Лукашэнку. Годзе, пабачыў за ім шчасце і радаснае жыццё. Прыклад адзіны, але значны. Вёска пачынае задумвацца над прычынамі свайго калгаснага жабрацтва. Значыць, трэба чакаць зменаў.

А вось іншы абразок. Да пікетоўшчыкаў з бел-чырвона-белымі сцягамі рвецца, як той бык на чырвоную анучу, чалавек. Нават міліцыя не можа стрымаць актыўнага прыхільніка рынкавага сацыялізму. Мы бываем і такімі. Гэта таксама наш грамадзянін. Патэнцыйны знішчальнік дэмакратаў і ўсіх астатніх, на каго пакажуць. У прамым сэнсе будзе ставіць ля сценкі альбо шчыраваць каля шыбеніцы. Ён ужо гатовы страляць, але чакае канкрэтнага загаду: прэзідэнту перашкаджаюць вось гэтыя. Калі беларускаму Вію падымуць павекі, невядома. Тады спіс у кішэню - і гайда па кватэрах перад світаннем. Яшчэ жывуць спецыялісты ў гэтай справе, падзеляцца досведам. Страх, ён жывучы, жывёльны... Ап'яняе, як кроў людская...

Фільм «Звычайны прэзідэнт» у нашай краіне пабачылі паўтара мільёны гледачоў. Не ў кіно, ведама. На відэа. Чарговая работа «Страх» толькі запускаецца да прагляду. Каб не даць сябе запалохаць, трэба ведаць механізм запужвання. А таксама і тое, да чаго можа прывесці раптоўная і агульная страта мужнасці.

Не дай сябе запалохаць!

**Сцяпан Ярашчук**

# Дзе беларускі мадэрнізм? Няма, не сачыняюць

**29 траўня ў Гарадзенскім абласным драматычным тэатры адбылася прэм'ера інсцэніроўкі дамашняга спектакля Уільяма Тэкерэя «Пярсцёнак і ружа». Ужо чатыры гады ў Гродне не ставіцца ніводнай п'есы беларускіх драматургаў.**

Рэжысёр драмтэатра Генадзь Мушперт паставіў на гарадзенскай сцэне казку ангельскага класіка, напісаную амаль 150 гадоў таму спецыяльна для сямейнага паказу на Раство. На мінулы ўікэнд у храме Мельпамены гледачамі былі не дзеці, для якіх і пішуцца казкі, а дарослыя, галоўным чынам моладзь. Мяркуючы па поўнай глядзельнай зале, публіка ўсё яшчэ цікавіцца навінкамі тэатральнага жыцця. Што можа зацікавіць сучаснага гледача ў казцы мінулага стагоддзя, мы хацелі высветліць у размове з аўтарам пастаноўкі, рэжысёрам Генадзем Мушпертам.

**Для даведкі - кароткі змест. Дзеянне адбываецца ў выдуманай краіне Пафлагоніі. Кароль Храбрус сілай захапіў уладу ў свайго брата, выхоўвае дачку, прынцэсу Анжаліку. Яе нарачоны - прынц Абалду - нашчадак караля Понціі Заграбастала. Пасля смерці брата застаўся ў жывых прынц Перыкарыль. Падчас хрэсьбін фея Чорная Палачка падарыла дзецям цудоўныя рэчы: Анжаліцы - пярсцёнак, уладальніца якога здаецца ўсім самай прыгожай на свеце. Абалду атрымаў ружу, што робіць яго мілым для ўсіх. Служанка прынцэсы Анжалікі - Бесцінда, - на самой справе - прынцэса Разальба, бацьку якой забіў цяперашні кароль Понціі Заграбастал. Фея Чорная Палачка кіруе ходам падзеяў, мяняючы ўладальнікаў цудадзейных пярсцёнка і ружы. З-за гэтага прынцы і прынцэсы то кахаюць адзін аднаго, то не, мяняюцца нарачонымі. Такім чынам, пад уплывам тых жа пярсцёнка і ружы пачынаюцца войны, мяняюцца каралі. У фінале, пасля многіх бедаў і небяспекаў, Перыкарыль і Разальба павінны павянчацца. Але хэпі-энду няма: нават цуды Чорнай Палачкі не перамаглі лёс і чалавечыя жарсці.**

***- Спадар рэжысёр, Вы ўзяліся за казку Тэкерэя, бо яна падалася Вам надзённай?***

- Так, яна мяне зацікавіла і, думаю, спадабалася гледачам.

***- Аднак што ў наш час можа быць агульнага паміж фантастычнымі Пафлагоніяй, Понціяй і нашай рэальнай Беларуссю?***

- Ведаеце, мне проста хочацца расказваць людзям казкі - гэта дае адпачынак ад сённяшняга моманту. А да таго ж, «сказка ложь - да в ней намёк...», кожны зробіць свае высновы з казачных перыпетый.

***- Ці не спрабуеце Вы карыстацца эзопавай мовай, як некалі падчас «застою» рускі казачнік-сцэнарыст Яўген Шварц?***

- Ну, у «Пярсцёнку і ружы» няма нічога, чаго нельга было б сказаць словамі. Галоўная думка, ідэя спектакля - паказаць дарэмнасць чалавечых высілкаў, марную нікчэмнасць. Мы ўсе імкнемся за сваёй марай, а дасягнуўшы яе, бачым, што яна - падман. У казцы шмат іроніі, паказанай праз цытаты з Пушкіна, Шэкспіра ды іншых класікаў. Цытатамі такога кшталту насычана маўленне казачных прынцаў і прынцэсаў. Хацелася ўпэўніць людзей у тым, каб яны не прымалі ўсур'ёз свае няўдачы і нечаканыя падарункі лёсу - усё гэта ўжо было сто, дзвесце, пяцьсот гадоў таму. Усё паўтараецца, і гэта адначасова і забаўна, і трагічна. Ну скажыце, хіба Вам не спадабаўся спектакль? Не падаўся актуальным?

***- На жаль, па праўдзе кажучы, не вельмі. Мяне асабіста не надта хвалююць казачныя перажыванні лялечных каралёў. Я не бачу ніякай сувязі падзеяў з нашай рэчаіснасцю. Усё абстрактна, не кранае пачуццяў. А між тым, нейкі класік сцвярджаў, што тэатр павінен узрушваць...***

- Я пасля спектакля, бывае, хаджу сярод гледачоў і чую, што яны кажуць наконт сваіх уражанняў. Як не дзіўна, усім падабаецца відовішча, цытаты ў тэму, Вы самі чулі смех і апладысменты падчас дзеі. Аднак нешчаслівы фінал, дзе глядач замест чаканага вяселля бачыць чорт ведае што, выклікае расчараванне. Ну, не падабаецца ім нешчаслівы фінал, і ўсё! А я не магу гаварыць людзям у сваіх спектаклях: усё будзе добра. Бо ўсё добра не будзе. Аднак, напэўна, трэба выбіраць тое, што падабаецца публіцы, што дапамагае адолець сённяшняе пачуццё безвыходнасці. Трэба культываваць жыццястойкасць.

***- Аднак хэпі-энды амерыканскіх масавых фільмаў ці бразільскіх серыялаў нельга назваць шэдэўрамі сусветнага мастацтва. Вы не спрабавалі звярнуцца да сучасных беларускіх драматургаў?***

- Да слова пра ідэйную нагрузку. Прыкладам, наш «Вар'яцкі Журдэн» не нясе ніякай глыбокай ідэі. А ўсё добра заканчваецца - і глядач задаволены.

Што датычыць беларускай драматургіі, то «Нешчаслівы селянін» быў апошняй беларускай п'есай, якую мы паставілі чатыры гады таму. З той пары я не бачу нічога цікавага ў беларускіх драматургаў.

Палітыка Міністэрства культуры, скіраваная на агульную падтрымку беларускіх аўтараў, мне не падабаецца. Нібыта ўсё, што напіша беларускі сцэнарыст - заведама вышэйшай якасці. Гэта не так. Тэатр - не школа і не курсы сацыяльнай адаптацыі, а месца, дзе жыве сцэнічнае мастацтва. І пытанне трэба ставіць інакш: не пісаць хоць абы-што, але сваё, а перакладаць на беларускую мову класіку, асвойваць сваёй мовай сусветную драматургію.

***- Няўжо сапраўды няма новых, сучасных п'ес маладых аўтараў?***

- Узрост - яшчэ не паказчык. А добрых, як Вы кажаце, актуальных п'ес напраўду няма. Дзе беларускі мадэрнізм? Няма, не сачыняюць.

Адзіны новы спектакль, з якім не сорамна і за мяжу - «Крывавая Мэры» А.Гарцуева, пастаўленая купалаўскім тэатрам.

Так што буду, відаць, і надалей расказваць людзям казкі. Да канца сезона мяркую паставіць два анекдоты Рыгора Горына, дзе ізноў усё пераплецена да абсурду, як і ў жыцці: трагічнае і класічнае, паўсядзённасць і выдумка.

**Алена Сіневіч**

